# РЭАНІМОВА

газэта супольні імя Максіма Багдановіча • 1989 • № 6


## Ларыса Геніюш

## Сьвяты вечар

Каляда, Каляда! На зямлі сьвяты вечар.
Нарадзіўся уясьлях Збавіцель і Бог.
І пасталі бярозак танклявыя сьвечкі
Паабапал засьнежаных белых дарог.

Мо сыцдзёй за таму, што зіма на парозе.
Адчуваецца лютасьць суровай пары.
Ды у полі пустым на шырокай дарозе
Плачуць нечаму сумна ліхія вятры.

Чым жа сэрца сагрэць, як той холад адужац
Ці агеньчыкам цьмяным ў сялянскім акне?
Калядою сьвятой, што насуперак сыцюжам,
Цеплынёй чалавечыя сэрцы кране?

Каляда, Каляда! Нават зорам трывожна.
Па заблытаных сьцежках крутога жыцьця
Да сваіх ў гэты вечар сьпяшаецца кожны,
Бо ў сям'і за сталом нас чакае куцьця.

Пахне сенам наўкол, стаяць посныя стравы.
Прытаміўшыся, маці шчасьліва маўчыць.
Садавяцца сыны на шырокія лавы.
Ўсе сышліся дамоў, каб душой адпачыць.

Добра сесьці за стол, сьлязу радасьці ўцерці,
Адчуваць, што ў застольлі сястрычкі, браты,
І душы чысьціня, і узьнёслыя сэрцы,
Бо зь людзьмі разам Бог ў гэты вечар сьвяты.

Сяньня сэрцам з усімі куцьцю разьдзяляем.
Хто за стол наш ня змог на вячэру прыйсьці,
Усіх далёкіх і родных сваіх спамінаем,
І дабра ўсім і шчасьця жадаем ў жыцьці.

Хай жа будзе вам цёпла, бы ў бацькавай хаце,
Ў гэтым сьвеце шырокім, дзе столькі дарог,
Няхай людзі зямлі для вас будуць, як брацьця,
І жыцьцёвыя сьцежкі прастуе вам Бог.

Можа хто занямог, можа хто пахіснуўся,
Загубіўшы сумленьне ў нялёгкім жыцьці,
Прытаміўся ў шуканьні сваёй Беларусі,—
Памажаце й такім на вячэру прыйсьці!

За сьвяточным сталом знойдзем кожнаму мейсца
Каля вернага сэрца сясьцёр і братоў.
Няхай будзе і ў вас, як у добрай сямейцы,
Усім пароўну ў жыцьці — і куцьця і любоў.

Няхай вера ў дабро, свая мова ў застольлі,
А у думках зямля, дзе спачылі дзяды,
Хай жа ўсюды ласкава спрые вам доля,
А любоў да народа мацуе рады!

1977 год

*раскрыжаваньне кат завершыў...*
*абламаны кужаль кроў жыцьця...*
*так: Пагоня — гэта тэрны*
*мой Бел-Чырвона-Белы сьцяг!*

*Зьніч*

## Гародня 28 кастрычніка 1989 г.

на пляцы перад Фарным касьцёлам сабраліся вернікі з усёй Гродзеншчыны на павітаньне біскупа Тадэвуша Кандрусевіча. Хто жадаў трапіць на ўрачыстую імшу, не зьмясьціліся ў касьцёле, таму маліліся на бруку, ў гаёчку, кленчылі пад пасьміханьне міліцыі, якая, як заўжды, пільна сачыла за парадкам.

Моладзь зь Беларускага народнага фронту "Адраджэньне" прыйшла на пляц з плякатамі

## Вітаем каталіцкага біскупа Беларусі
## Божа благаслаўі Беларусь

На фасадзе касьцёла лёзунгі на польскай ды беларускай мовах.

Тадэвуш Кандрусевіч выйшаў з машыны ды благаславіў прысутных знакам крыжа, сказаў кароткае вітаньне. Дзеці паднесьлі пастыру кветкі. Павіталі ксяндзы ды знаёмыя.

Урачыстае набажэнства трансьлявалася па радыё на пляц перад касьцёлам, прысутнічалі сьвятары зь Беларусі, Літвы ды Польшчы, праваслаўная дэлегацыя. Былі прачытаны афіцыйныя дакументы. Капланы Беларусі склалі прысягу павагі, вернасьці і паслушэнства.

Была зачытана тэлеграма кардынала Польшчы Юзафа Глемба. Благаславіла на служэньне Богу новага біскупа маці. Вернікі дарылі кветкі ды сімвалічныя сьціплыя дарункі.

## 10 мая ў Ватыкане

Папа Рымскі Ян Павал II выдаў пантыфікат аб наданьні тытула біскупа каплану Віленскае дыяцэзіі пробашчу парафіі Маткі Боскай Анельскай у Гародні Тадэвушу Кандрусевічу, назначыўшы яго Адміністратарам Апостальскім Лацінскім Мінскае дыяцэзіі і ўсіх капланаў на Беларусі. У Гародню прыйшла вестка аб гэтай падзеі 25 ліпеня.

Урачыстая кансакрацыя новага біскупа адбылася ў Ватыкане ў Базыліцы сьвятога Пятра ў прысутнасьці 30 кардыналаў ды 70 біскупаў з розных краін сьвету, а таксама ўрадавых дэлегацый.

Высокая ўвага да біскупа Беларусі тлумачыцца тым, што гэты біскуп назначаецца пасьля 62 гадоў перапынку. Рэлігія ў краіне доўга прыгняталася. Забаранялася дзецям і моладзі хадзіць у касьцёл і царкву, стасаваліся розныя рэпрэсіі да вернікаў, зь вялікаю заўзятасьцю ваявалі з духавенствам. Зачынялі сьвятыні, ператваралі іх у склады,

[illegible]ць. Як сказаў у выступленьні папскі нунцый — характэрным зьяўляецца выказваньне найвышэйшага кіраўніка дзяржавы ў 70-х гадох:" У 1980 годзе пакажам вам па тэлебачаньні апошняга савецкага папа".

**Сьвяты Айцец** надаліў Тадэвуша Кандрусевіча ганаровым тытулам Гіпоны, горада, які знаходзіцца ў Тунісе, недалёка ад старажытнага Карфагена, дзе перш Арцыбіскупам быў сьвяты Аўгустын. У краінах, якія былі далучаны да хрысьціянства, а пасьля, заваяваныя мусульманамі, страцілі веру ў Хрыста, назначаюцца ганаровыя біскупы ў знак таго, што Касьцёл памятае аб людзях гэтых краін і спадзяецца вярнуць іх пад сваё крыло.

**Тадэвуш Кандрусевіч** зьвярнуўся да гасьцей, сьвятароў і вернікаў з казаньнем на польскай, беларускай, літоўскай ды расейскай мовах. Зьмяшчаем слова біскупа на роднай мове цалкам, на польскай скарочана з камэнтарам. Далучаемся да віншаваньняў усіх добрых людзей у краі і на сьвеце, жадаем біскупу здароўя і высокіх справаў у адраджэньні веры ; выказваем надзею, што ў дзейных, адноўленых і зноў пабудаваных сьвятынях народ будзе размаўляць з Богам вуснамі Яго пастараў на родных мовах. Аднолькавую надзею маем і на каталіцкае, і на праваслаўнае духавенства.

Вось што напісаў аб назначэньні Тадэвуша Кандрусевіча біскупам Апостальскі Візытатар для беларусаў католікаў за межамі Беларусі, які жыве ў Лёндане, у ВЕСЬНІКУ Беларускага Каталіцкага Душпастырства #2-1989:

„Паднясеньне да біскупскай годнасьці кс. Тадэвуша Кандрусевіча і назначэньне яго Апостальскім Адміністратарам Менскім з юрысдыкцыяй над усімі католікамі рымскага абраду ў Беларусі, можна разглядаць як адказ на шматгадовыя малітвы і просьбы беларусаў. Тым ня менш яно зьяўляецца для ўсіх вялікай нечаканасьцю і таму выклікае пачуцьцё занепакоенасьці. Перадусім у вырашэньні так важнай для іх справы беларусы ня мелі ніякага голасу: усё рабілася ціха і без іхняга ведама. Другое, што непакоіць,— гэта асоба самога біскупа Кандрусевіча, які зьяўляецца зусім невядомым сярод беларусаў. Неабходна тут адразу зрабіць засьцярогу, што гэта ня крытыка новага біскупа, а толькі сьцьверджаньне факту. Вельмі магчыма, што дзякуючы сваім выдатным асабістым якасьцям ён зьяўляецца найбольш адпаведным кандыдатам на такое назначэньне. Магчыма, гэта радасьць прыйдзе пазьней. А тымчасам яны памятаюць яго ў сваіх малітвах і шчыра жадаюць, каб Добры Бог даў яму патрэбную сілу, ласку быць сапраўдным пастырам для ўсіх сваіх вернікаў.

У Беларусі ёсьць два мільёны католікаў. Паводле афіцыйнай савецкай статыстыкі там жыве 500 тысяч палякаў...Такім чынам, астаецца паўтара мільёна вернікаў іншых нацыянальнасьцяў, абсалютная большасьць якіх - беларусы. Трэба спадзявацца, што іх патрэбы ня будуць забытыя."

## З выступленьня на польскай мове

Сеньня Ісус Хрыстос пасылае свайго біскупа на гэтую зямлю і да гэтага народу, які жыве на Беларусі. Народ гэты сьвяты і вельмі працавіты, зямля не адзін раз моцна напоена людскою крывёю, густа зрошана сьлязьмі цярпеньня,—таксама сьвятая. На гэтай зямлі нарадзіліся або тут жылі і працавалі, дасканалілі сваю духоўнасьць такія сьвятыя, як сьвяты Казімір, які нарадзіўся дзеля неба ў ста кроках ад мэйсца, дзе мы знаходзімся, у Гродзенскім старым замку. Сьвяты Андрэй Баболя, мучанік, сьвяты Максымільян Кольба, таксама пакутнік, благаслаўлены Ежы Матулевіч-Матулайціс, былы біскуп Віленскі, Зыгмунт Лазінскі, былы біскуп Пенскі, а пасьля Пінскі. Слуга Божы айцец Мэльхіор Кордан, магіла якога знаходзіцца ў Гародні...Благаслаўлёныя кветкі гэтай зямлі і гэтага народу, які трывае і выхоўвае такія прыгожыя душы. Зямля наша сьвятая, таму што народ ня страціў веры.

Хай прыкладам будзе Гродзенскі фарны касьцёл. Тут без сьвятара кожную нядзелю зьбіраліся, клалі арнат на алтар і маліліся, нібы адпраўлялі імшу, і гэта малітва трымала вас пры Богу.

Наступілі новыя часы. Усё часьцей бачым маладога ксёндза ў касьцёле, усё болей клерыкаў паступае ў сэмінарыю. Адчыняюцца касьцёлы, якія дасюль ня дзейнічалі... Але пакуль што на Беларусі працуе толькі 60 ксяндзоў у 150 касьцёлах і гэта на два з паловай мільёны вернікаў...

## Слова на беларускай мове

Паважаныя браты і сёстры ў Хрысьце! Калі перад кансакрацыяй даведаўся, што Сьвяты Айцец прамовіць па-беларуску, быў вельмі рады і трохі баяўся. Бо і сапраўды, ці была калі-небудзь у гісторыі Касьцёла хвіліна, каб Сьвяты Айцец прамаўляў па-беларуску пад час сьвятой Эўхарыстыі? Цяпер хацеў бы зацытаваць яго словы, каторыя ён сказаў тыдзень таму назад:" Вялікаю зьяўляецца таксама мая радасьць магчы надзяліць поўню сьвятарства дарагому монсіньёру Тадэвушу Кандрусевічу, якога я назначыў Апостальскім Адміністратарам Менскае дыяцэзіі для католікаў усёй Беларусі.Жадаю яму бацькаўскай любоўю посьпехаў у вядзеньні душпастырскай працы на гэтай тэрыторыі ды ў той самы час упрошваю Божага благаславеньня яму і ўсім вернікам, даверанным яго душпастырскай абецы"...Я таксама ўсім верным католікам, дзецям сьвятога Касьцёла, якія жывуць на беларускай зямлі, ад усяго сэрца прыношу падзяку за малітву, за шчырыя пажаданьні, за абяцаны ўдзел у пашырэньні дабра і Божага слова.

Хачу быць для вас добрым пастырам. Моцна абдымаю сваім сэрцам усіх людзей, веруючых і няверуючых, разнастайных моваў і нацыянальнасьцяў, што жывуць на нашай зямлі, і сьцьвярджаю, што мэта каталіцкага біскупа заўсёды накіравана на зьдзяйсьненьне дабра і шчасьця кожнага чалавека, народа, дзяржавы. Касьцёл Хрыста служыць усяму чалавецтву, бо ён сваімі ідэямі ахапіў мільёны людзей на ўсіх кантынентах, для якіх імя Хрыста самае дарагое ў жыцьці. Перадаю прывітаньне ад Папы Рымскага Яна Паўла II, які ўсім сэрцам любіць гэтую зямлю, памятае і благаслаўляе яе.

Слава Ісусу Хрысту.

# фронт, фронт, фронт – ён народу майго адраджэньне

## Ужо як паўгода

існуе Беларускі народны фронт "Адраджэньне", але зьвесткі пра яго дзейнасьць у афіцыйных сродках інфармацыі або хлусьлівыя, або няпоўныя. Калі пра справы БНФ у Менску можна даведацца з "Навін", дык пра тое што адбываецца ў Гародні, як паказаў вопыт, адчуваецца вялікі недахоп інфармацыі.

Паколькі Гродзенская філія ня мае свайго выданьня, наша суполка, спытаўшы дазволу ў сяброў з фронту, вырашыла зрабіць агляд яго дзейнасьці.

## 10 ліпеня

у Гародні адбылося ўстаноўчае паседжаньне Гарадзенскае Рады БНФ, у склад якое ўвайшлі прадстаўнікі груп падтрымкі, што былі створаны ў горадзе. Было вырашана правесьці 26 ліпеня мітынг, на якім расказаць гарадзенцам аб задачах народнага фронту. Гарвыканкам дазволіў мітынг, на што мы, шчыра кажучы, не спадзяваліся, але ня ў цэнтры горада, а на стадыёне ў новым парку, куды цяжка дабірацца і ня ўсе гарадзенцы ведаюць, дзе ён знаходзіцца.

Прадстаўнікі фронту не пайшлі на канфрантацыю і згадзіліся правесьці мітынг у парку.

## 21 і 22 ліпеня

ў цэнтры горада былі выстаўлены пікеты для папярэдняй інфармацыі аб мейсцы правядзеньня і мэтах мітынгу.

## Мітынг,

, на якім прысутнічала каля пяці тысяч чалавек прайшоў пад бел-чырвона-белымі сьцягамі 26 ліпеня. Народ бурна рэагаваў на выступленьні, адчувалася поўная падтрымка прысутнымі народнага фронту. Прысутнічалі прадстаўнікі "Саюдзісу", адзін зь іх сказаў аб супольным гістарычным лёсе нашых народаў і аб супольным шляху ў будучыню. Мітынг закончыўся сьпяваньнем "Пагоні"

Трэба адзначыць, што ўлады вялі сябе тактоўна. А сярод прысутных аказалася шмат ахвотнікаў іх пакрытыкаваць.

Быў утвораны арганізацыйны камітэт Рабочага Саюза Беларусі ў Гародні. Пачалі ўзьнікаць новыя групы падтрымкі НФ.

## 19 і 20 жніўня

па ініцыятыве груп падтрымкі БНФ завода аўтамагнітолаў былі выстаўлены пікеты, на якіх зьбіраліся подпісы з патрабаваньнем перадаць адну са сьпецпаліклінік пад дзіцячую. Сабралі 2864 подпісы, якія перадалі ў гарвыканкам. Людзі, якія падтрымлівалі нас на словах, подпісы ставіць баяліся. Пазытыўным момантам гэтае акцыі зьявілася тое, што хто паставіў подпіс, перайшоў праз бар"ер страху, — страху, які ўбівалі ў людзей на працягу іх жыцьця.

## наступны мітынг

вырашылі правесьці 6 верасьня, каб сумесна з народам абмеркаваць праект закона аб выбарах. 28 жніўня прадстаўнікі Рады былі выклікаваны ў гарвыканкам, які палічыў, што мітынг праводзіць немэтазгодна, лепей абмеркаваць праект закона на прадпрыемствах, гэта значыць, пад наглядам начальства.

На сустрэчы ў гарвыканкаме прадстаўнікам НФ спрабавалі вярнуць подпісы аб перадачы сьпецпаліклінікі дзецям, тлумачылі немагчымасьць вырашыць гэтае пытаньне недахопам у горадзе школ, цяжкасьцямі ў будаўніцтве, зьнікненьнем мыла і цукру...

Фронт патрабаваў пісьмовага адказу, тады подпісы з гарвыканкама перадалі ў аблвыканкам.

А праз некалькі дзён мы даведаліся, што з 16 верасьня "абкамаўская" паліклініка перадаецца пад дзіцячую. Праўда, потым высьветлілася, што ўсё абсталяваньне было вывезена невядома куды, а дзецям пакінулі голыя сьцены...

У будынку аблвыканкама абсталявалі "медпункт".

## 9 верасьня

на пікетах паведамлялі людзям аб забароне мітынгу і зьбіралі подпісы пад праектам закона аб выбарах, які прапанаваў БНФ. 700 подпісаў з прапановай яго надрукаваць паслалі ў Вярхоўны Савет БССР.

## 11 кастрычніка

стала вядома аб пакараньні арганізатараў "Чарнобыльскага шляху". Распачаўся збор подпісаў з патрабаваньнем адмяніць гэтае ганебнае рашэньне...

## Меркавалася

прайсьці шэсьцем да зьнішчанага касьцёла Вітаўта, дзе правесьці мітынг-рэквіем Дзяды. У адказ на заяву гарвыканкам па ўказу Прэзыдыума Вярхоўнага Савета БССР ад 4 красавіка 1988 года забараніў правядзеньне сьвята, да таго ж выканкам вырашыў праводзіць Дзень памяці ў трэцюю нядзелю красавіка, не зьвяртаючы ўвагі на тое, што беларускі народ тысячы гадоў праводзіць Дзяды ў пачатку лістапада.

Пачалі рыхтавацца да несанкцыянаванага шэсьця і мітынгу. Але 28 і 29 кастрычніка віталі ў горадзе біскупа, прыйшлося праводзіць мітынг на Вайсковых могілках, каб не перашкаджаць вернікам.

26 кастрычніка атрымалі рашэньне аблвыканкама, у якім па ўказу Прэзыдыума Вярхоўнага Савета БССР ад 4 красавіка 1988 года дазвалялася правесьці Дзяды.

Усклалі кветкі да магіл героя, прайшлі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі па горадзе ды правялі мітынг.

Трэба адзначыць, што з-за супярэчлівай інфармацыі аб мейсцы правядзеньня мітынгу шмат людзей прыйшло на плошчу касьцёла Вітаўта, пастаялі ды разыйшліся.

## адбылося

некалькі сустрэч зь лідэрамі НФ зь іншых гарадоў: зь Яўгенам Шунэйкам, Алесандрам Гальковічам, Міхасём Ткачовым, Юрыем Хадыкам, Ларысай Саўкевіч, Сяржуком Сокалавым-Воюшам.

Калі не сяброўка, то сябра Рады езьдзілі ў Менск на паседжаньні ды сэмінары па эканоміцы, па пытаньнях далучэньня красаў да БССР, прымалі удзел у рабоце камісій, прысутнічалі і нават выступалі на мітынгах... Актыўна распаўсюджвалі франтаўскі друк.

## Газэта „Высота"

"Палявела" і ўзьнялася вышэй, друкуючы інтэрв"ю з В. Бацылевым ды А. Чобатам, старонкі зь дзеячамі нацыянальнай культуры. Нядзіва, што яе чытаюць ня толькі ў парткаме.

На заводзе хімвалакна праведзены сход з удзелам актыву НФ, на якім запратаколена група падтрымкі народнаму фронту.

## Хто ня мае

магчымасьці ўтва- ць групу падтрымкі фронту, ходзіць на Рады як вольны назіральнік, але найлепей, каб наведваў клюб "Паходня", дзе кіпіць, ажно выліваецца цераз край дыскусыйная дзейнасьць,- клюб зьбіраецца па панядзелках, афіцыйна прызнаны, зьяўляецца добрай аўдыторыяй, каб распаўсюджваць зьвесткі, мае вялікі рэзананс.

У Навагрудку, Лідзе, Слоніме, Мастах, Ашмянах, Іўі, Гудзевічах і Рацічах не сьпяць франты, праводзяць пікеты і сходы, пішуць лісты.

## Суполка

імя Максіма Багдановіча навасіла некаторых паходнеўцаў на лекторый па паглыбленаму вывучэньню катэхаў ды гісторыі вуніі на Беларусі.

У самой суполцы, якая афіцыйна ня існуе, утварыўся - не адкалоўся! — верш-гурт "Дыяген", які намаганьнем Пацюпы заносіць у авангард...

Аднойчы суполка імя Багдановіча ды два паходнеўцы ды Карпюк з Голубам паехалі ў Кушляны з заездам у Жупраны ды Гальшаны, каб перацягваць будаўнічы друз, бярвеньне ды каменьне ад дома Францішка Багушэвіча на сьметнік. Пазнаёміліся зь мясцовымі талентамі рэстаўратарамі ды з мярэбчыкам, што і паказала Гродзенскае тэлебачаньне.

Эсабліва яскрава зьзяла на экране дзірка пад каменем "памяці Мацея Бурачка".

Але ня было там Міхала Ляпехі...

## У [illegible]

з зовода аўтамагнітолаў "Маяк" на высокім узроўні сталі выходзіць на беларускай мове "Родныя старонкі". Пасьля адпачынку рэдактар пачаў бракаваць матэр"ялы, у якіх успамінаецца Бог.

**22 верасьня** сьпяваў у Гародні данчык, беларускі амэрыканец, а можа амэрыканскі беларус. Упершыню наведаў край дзядоў разам з маці Валяй Андрусьшынай, яны сумесна з Сяржуком Сокалавым-Воюшам ды Лявонам Барткевічам зьбеларушчылі Гародню за адзін вечар. Якое цудоўнае беларускае вымаўленьне у Данчыка!

Народны фронт амаль увесь і зьмясьціўся ў зале на 700 месцаў!

## Абуральных лістоў

аб высяленьні з Новага замку абкама ды перадачы пад галерэю мастацтва, аб стане бібліятэкі імя Карскага, аб дзяржаўнасьці мовы, з патрабаваньнем выдзеліць памяшканьне для паседжаньняў ды стэнд для інфармацыі вестак з усіх франтоў — прыходзіцца клеіць на сьценах ды платах!

Мы напісалі столькі лістоў, што як сказалі б нашы продкі, на валовай скуры не зьмясьціліся б... Кропля бурыць камень. Галавой, калі настойліва біцца, можна прабіць кітайскую(не крамлёўскую) сьцяну!

Як дамовіцца зь бюракратамі, калі мы па-беларуску, а яны па-савецку...

## Я лічыў сябе камуністам

бо выхоўваўся на прыкладзе герояў першых гадоў рэвалюцыі, быў захоплены рэвалюцыйным пафасам, прынцыповасьцю камуністаў ды камсамольцаў 20-х і шчыра верыў у лёзунгі аб сусьветнай рэвалюцыі ды ненавідзеў "ворагаў".

Толькі пасьля вайны зразумеў, што ад слаўных рэвалюцыйных традыцый не засталося нават успаміну.

Замест нянавісьці да ворагаў рэвалюцыі бачыў нянавісьць да свайго народа, а замест рэвалюцыйнага энтузіязма — мяшчанскую абыякавасьць.

Чытаў Маркса і Леніна, ды знаходзіў супярэчнасьці некаторых думак.

...укі ідэальнага грамадства пачаліся з дасьледаваньня вядомае формулы — ад кожнага, на што здольны, кожнаму, колькі трэба.

Пачнем з канца!

Патрэбы вызначаюць вытворчасьць тавараў, а таму вытворчасьць адразу ня можа задаволіць попыту насельніцтва.

Пры звыклым сьветапоглядзе у нармальным грамадзтве кожны імкнецца першым мець усе неабходнае, і нават больш таго; хочацца быць адметным. Няма сумніву, што чалавек, якому найбольш патрэбны новы тавар сягоньня, атрымае яго заўтра, праз месяц, праз год.

У такіх умовах грамадзтва змушана стварыць спэцыяльны орган па разьмеркаваньні, які будзе абмяжоўваць свабоду асобы, тварыць насільле над большасьцю насельніцтва, што далёка ад ідэала. Прадстаўнікі ўлады выхоўваюцца не ізаляванa, і таму такія ж эгаісты, як і большасьць.

Пры такіх умовах разьмеркаваньне будзе яшчэ больш несправядлівым, бо непазьбежны блат, сваяцтва, злоўжываньне службовым становішчам і спэкуляцыя.

Першая палова формулы "ад кожнага, на што здольны" у дачыненьні да ўсяго грамадзтва — утопія. Прэтэндэнтаў на прыемны від дзейнасьці значна болей, чым патрэбна грамадзтву, што непазьбежна вядзе да канкурэнцыі з мэтаю атрыманьня жаданай працы. Для вызначэньня "больш здольных" зноў неабходны спэцыяльны орган, які зноў жа будзе дзейнічаць несправядліва, бо эгаістычны па сваёй сутнасьці.

Камуністычныя ідэалы здольныя бытаваць у духоўна здаровай сям"і, дзе ўзаемаадносіны будуюцца на аснове любові ды павагі, і ў манаскай абшчыне, дзе ўсё вызначае любоў да Бога і да бліжняга.

Пераносіць жа камуністычныя прынцыпы на ўсё чалавечае грамадзтва, у якім ёсьць палітычныя, вытворчыя, міжнацыянальныя праблемы, — нязбытная мара. Іваноў

## Тупэнічныя выбары ад грамадзкіх арганізацый

Канае мафіёзная "ідэя".
Шукае адвакатаў
атаман.
Хто ж будзе бараніць
цябе, Бандэя?
Сьляпы, глухі, нямы ды...
"ветэран".

Голас народа зарыфмаваў Вядзьмак Менскі.

У "Рэанімове" №5 дапушчана памылка: ня Генрых, а Герман Скамарох, вёска Заляшаны, а не Залешыны. Прабачце нам.

Шчыры дзякуй сябрам Алесю Бабічу, Алесю Белакозу, Міколу Канашу, а таксама Марысі, Ніне, Антосю ды сябру Аляксандру за матэрыяльную дапамогу ў выданьні газэты "Рэанімова".

Нумар падрыхтаваны ў лістападзе 1989 г.

Адрас для карэспандэнцыі: 230029, Гародня, вул. Каліноўскага д.7, кв. 4, Данучe Бічэль-Загнетавай.